Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў
ад 9 да 2 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты:
за 1 год—7 зл., за паўгоду—
3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл.,
за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 22 студзеня 1930 г. №. 3



## У імя чалавечнасьці.

Нядаўна мы падалі нашым чытачом вестку аб тым, што на паседжаньні Беларускага Дабрадзейнага Таварыства 27 сьнежня — згодна з прапазыцыяй грам. Астроўскага—было пастаноўлена ўтварыць патранат дзеля матэрыяльнае і маральнае апекі над асобамі, пазбаўленымі магчымасьці зарабляць на хлеб сваей працай, а также над іх сем'ямі. Новавыбранаму ўраду Таварыства дportучана было заняцца распрацоўкай і арганізацыяй патранату.

Горача вітаючы распачатую Таварыствам акцыю, мы лічым сваім абавязкам зьвярнуць сягоньня ўвагу ўсяго нашага грамадзянства на цэлую чысьлевую групу людзей, якія ў першую чаргу мусяць быць абняты патранатам. Гэта — тыя, хто аказаўся супраць волі адарваным ад варштату сваей працы, ад сваей сям'і і—апынуўся ў вастрожных мурох...

Ад найдаўнейшых часоў у-ва ўсіх грамадзянствах маральнае і матэрыяльнае падтрыманьне вязьняў лічылася аднэй з найвыдатнейшых цнотаў чалавека. Вельмі высака стаўляў яе і Хрыстос. Але, калі да людзей, ужо засуджаных за той ці іншы праступак, быў шырака тасаваны гэты акт міласэрнасьці — ў імя пачуцьця гуманнасьці, чалавечнасьці, дык наколькі-ж балей павінна рупіцца грамадзянства аб людзёх, папаўшых у вастрог толькі дзеля западозраньня іх у нейкім дзеяньні, маючым адзнакі праступку часта адно толькі з пункту гледжаньня зьменных палітычных абставінаў, з пункту гледжаньня інтарэсаў тэй ці іншай пануючай партыі! Мы маем тутака на думцы вялізарную лічбу так-званых „прэвэнцыйных“ вязьняў, каторыя часамі сядзяць гадамі за вастрожнымі кратамі, а пасьля звальняюцца судом ад усялякае кары, як зусім непавінныя ў узьведзеных на іх абвінеаньнях. Найчасьцей гэтак бывае ў нас у справах палітычных: нядаўна мы мелі ў Віленскім Акружным Судзе ажно дзьве палітычныя расправы, на якіх судзілі каля 60 беларускіх сялян з ваколіц Глыбокага, і ўсе яны, праседзіўшы многа месяцаў на Лукішках, былі апраўданы—апрача двайга ці трайга. І вось дзеля таго, што гэтыя несправядліва пасаджаныя на лаву падсудных людзі не належалі да ніякае палітычнае партыі, аб іх абсалютна ніхто й не клапаціўся, ніхто не дапамагаў ані ім, ані іхнім сем'ям, пазбаўленым сваіх карміцеляў.

Хто хоць раз пабываў у „гасьцінных“ сьценах Лукішак — гэтага „нацыянальнага палацу“ беларусаў, той ведае, што і вялізарная лічба вязьняў, так ці сяк папраўдзі зьвязаных з палітычнымі партыямі, у працягу свайго пабыту ў вастрозе ня маюць ад гэных партыяў ніякага падтрыманьня. Партыі разважаюць вельмі проста: раз ты ўжо „прасыпаўся“, дык перастаеш быць карысным для партыі, і рупіцца аб табе няма патрэбы!

Так—хоць яно й агідна!—могуць разглядаць пытаньне аб дапамозе вязьням палітычныя партыі,—але грамадзянства глядзець гэтак ня можа. Кожын вязень для грамадзянства—гэта перад усім чалавек, якога сустрэла няшчасьце,—няшчасьце, зьвязанае найчасьцей з палітычнымі яго перакананьнямі. І гэткім нешчасьлівым людзём і іхнім сем'ям, якія мо' шмат балей церпяць „на волі“, чым іх карміцель—у вастрозе, грамадзянства мусіць дапамагаць—перад усім у імя чалавечнасьці.

Праўда, існуюць у Польшчы так-званыя вастрожныя патранаты, на чале якіх стаяць звычайна пракуроры. Але гэтыя ўстановы поў-афіцыяльнага характару выяўляюць вельмі абмежаную дзеяльнасьць і неяк не карыстаюцца спогадам шырэйшага грамадзянства. Шырокая ініцыятыва Беларускага Дабрадзейнага Таварыства, як установы наскрозь грамадзкай, мусіць выклікаць спогад у нашых працоўных масах вёскі і места, мусіць пабудзіць усё нашае грамадзянства да ўчасьця ў зборцы грошаў ці прадуктаў для вязьняў і іх абяздоленых сем'яў.

Не ў імя „палітыкі“, не ў імя партыйнасьці, але выключна ў імя чалавечнасьці.

### *Ад Выдавецтва.*

*Дзеля таго, што прысылка падпісных грошы адбываецца лішне павольна, часопіс наша перажывае цяжкія матэрыяльныя труднасьці. Падаючы аб гэтым да ведама нашых паважаных чытачоў, лічым сваім абавязкам папярэдзіць іх, што такі стан ужо паслужыў прычынай спазьненьня высылкі № 5 (1) а ў будучым можа прымусіць нас абмежыць часова выпуск нашае часопісі да аднаго разу на два тыдні ці 10 дзён залічаючы аплачаную ўжо падпіску на даўжэйшы час. Толькі аплата падпіскі* ўсімі ўраз-жа *дасьць нам магчымасьць выпускаць „Наперад“ акуратна кожын тыдзень.*

## Наперад!

Наперад, наперад, наперад!
Праз цемру, праз сон і ману.
Мы весьлім на сонечны бераг:
Там створым мы праўду сваю!

Працоўныя рукі і грудзі —
І гібкі, і моцны, браты.
Даволі цярпеці! Мы — людзі.
Наперад! У вір барацьбы!

Згіналі мы каркі стагодзьдзі,
Бяз просыпу спалі вякі.
Пранёсься ўжо кліч у народзе:
— Наперад, наперад, браты!..

Наперад хай бура нясецца,
Хай б'юцца, рагочуць віхры.
Наперад!... Там сонца сьмяецца!
Наперад! Да сонца — туды!...

А згінем, дык згінем: ня шкода,
Ня страшна нам сьмерць, маладым.
Хто жыў, той й памрэ для народу
Пад сьцягам Пагоні сьвятым.

30. XII 1929 **М. М.**

## Беларусы і асьвета.

(Голас з вёскі).

31 сьнежня прайшло—апошні тэрмін складаньня дэклярацый на Беларускую школу ў мінулым годзе.

Ня першае гэта „31 сьнежня“: гэткіх „сьнежняў“ было ў нас ужо ня мала, нішто не гаворыць за тое, што гэты год шчасьлівейшым будзе для беларусаў у іх дамаганьнях, чым мінулыя гады. Складаючы ўсьцяж дэклярацыі, мы толькі напамінаем заўсёды, што мы—жывы, што, ня гледзячы на рэпрэсіі, у нас ня гіне і не слабее энэргія, і рана ці позна мы ўсё-ж такі мусім дабіцца свайго.

А тымчасам наша моладзь расьцець без асьветы і—замест разьвівацца духова—па прыкладу іншых народаў—траціць тое, што ёсьць. Сумныя вынікі школьнае палітыкі Польскага ўраду на „крэсах“ выяўляюцца на кожным кроку. Бойкі, нават забойствы падчас п'янства—ня рэдкі па нашых вёсках. Наймалодшыя нашы займаюцца і тым, што часта выходзяць на глухія дарогі, у пралесках і—нападаюць на безбаронных...

Усе гэта наводзіць невясёлыя думкі,..

Многа на беларускай вёсцы ёсьць сьведамых беларусаў, пачарпнуўшых яшчэ шмат чаго з часоў даваенных і вышколеных сусьветнаю вайною ды рэвалюцыйнымі падзеямі ў Расеі. У кожнай вёсцы знойдзецца гэткіх некалькі сьведамых сялян. Вось-жа, мала пакладаючы надзеі на ласку ці няласку ўладаў, трэба самым беларусам узяцца за самаасьвету, разьвіць культурную працу на вёсцы. Трэба ўсімі магчымымі спосабамі старацца адкрыць вочы сялянам на неабходнасьць асьветы і выхаваньня моладзі. У моладзі—наша будучыня, наша ўся сіла, і мы ня можама, ня маема права выгадоўваць сваіх дзетак у цемнаце—на будучых басякоў і... рабоў, бо гэткае выхаваньне адаб'ецца перад усім на нашай уласнай скуры.

Вось-жа гэткая арганізацыя, як Т-ва Белар. Школы, можа вельмі, і вельмі многа зрабіць у гэтым напрамку, і—яна павінна рабіць. Вёска трэбуе ад яго творчае асьветнае працы. Ладжаньне спэктакляў на вёсцы, лекцыяў, водчытаў, адкрываньне бібліятэк-чытальняў, павінна замяніць нам родную школу, якое дабіцца мы ніяк ня можам.

Дык да працы браты, і—рабема, што можам!

**Зініч.**

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### У соймавых камісіях.

У соймавай канстытуцыйнай камісіі 11 студня распачалася праца над пераглядам Канстытуцыі. Як ведама, „лагер пілсудчыкаў“ за ўсялякую цану хоча зьмяніць Польскую Канстытуцыю так, каб зрабіць у Польшчы Прэзыдэнта амаль не ўсемагутным, замацаваўшы такім чынам юрыдычна фактычна пануючы ў Польшчы ад маёвага перавароту лад, які ведамы польскі дзяржававед, праф. Пэрэт'яковіч, азначае, як „укрытую дыктатуру“. На першым паседжаньню прачыталі свае даклады два паслы: Ян Пілсудскі і Мечыслаў Недзялкоўскі. П. Пілсудскі бараніў цалкам знаміты праект зьмены канстытуцыі, апрацаваны клюбам „Б. Б.“; як кажуць, галоўным аўтарам праекту і зьяўляецца гэты пасол, родны брат самога Язэпа Пілсудскага.

Ня будзем разглядаць падрабязна праекту, які па сваім апублікаваньні ў пачатку мін. году нарабіў страшэннага галасу ў польскім палітычным і навуковым сьвеце. Даволі сказаць, што нават в. блізкія да „Б. Б.“ прафэсары-юрысты, ня кажучы аб іншых, пішуць, што праект „Б. Б.“ „касуе ўсе падставы сучаснага прававога гаспадарства“, што Прэзыдэнт у праектаванай пілсудчыкамі канстытуцыі мае „такія паўнамоцтвы, якіх ня мае ніводзін з канстытуцыйных манархаў“; што праект хоча ўвясьці ў Польшчы — „яўную і трывалую дыктатуру“. Дык з гэтага можна мець паняцьце аб усім праекце.

Другі даклад—пэпээсаўца п. Недзялкоўскага—цалком процілежнага зьместу. Праект п. Недзялкоўскага стаіць на груньце чыстай і паступовай парляментарнай дэмакратыі, ці ўпраўленьня дзяржавай народам праз парлямант, з адказным перад апошнім урадам. П. Недзялкоўскі адкідае асноўнае дамаганьне праекту „Б. Б.“ аб далейшым узмацненьні ўлады Прэзыдэнта (і яго ўраду), лічучы, што сцэмэнтаваць унутры такую рожнанародную дзяржаву, зрабіць яе сільнай вонках можна толькі шляхам здаваленьня патрэбаў усіх гэтых народаў, а перад усім, прыцягнуўшы да супольнай працы, улады і адказнасьці ў дзяржаве ўсе шырокія працоўныя масы ўсіх гэтых на-

## З Радавае Беларусі.

### Арышты беларускіх дзеячоў.

Праз Прагу Чэскую да нас прыйшла веcтка, што, ў сувязі з агульным паходам маскоўскага „чырвонага“ нацыяналізму проці беларускае культурнае працы (што, як ведама, знайшло вельмі балючы для нас водгук і ў Заходняй Беларусі!), заарыштаваны і знаходзяцца ў менскіх вастрогах Вацлаў Ластоўскі і тая група беларусаў, якія прыехалі з Коўны ў Менск, прывабленыя завярэньнямі Компартыі, што „беларускі курс“ устаноўлены партыяй „надоўга і ўсур'ёз“. Як ужо ведама нашым чытачом, гэты прыхільны раней да беларусаў курс вельмі рэзка зьмяніўся на курс яўна варожы. Ці ізноў „надоўга і ўсур'ёз“?—Пакажа будучыня.

## Паштовая скрынка.

**М. М-ры**. За вершы дзякуем. Усё выкарыстаем. Асобу, аб якую пытаецеся, ваш адрас аддалі. Гэта — наш чынны супрацоўнік.

**Запружанцы**. Ваша карэспандэнцыя атрымана. Аднак, з яе ня зусім ясна, ці гародзькаўскія хлопцы запраўды мелі такую благую думку, ці гэта быў жарт. Ведама, і як жарт — іх паступак няпрыстойны. Але-ж і самі вы пішаце, што „невядома, што было-б далей, каб не надыйшлі людзі“ і г. д. — Дык карэспандэнцыі ня друкуем, а калі тыя хлопцы прачытаюць гэты адказ і крыху адумаюцца, дык зразумеюць, што ня гожа рабіць гэта: вера — справа сумленьня кожнага чалавека — мусіць быць свабодная, і нельга чапляцца пужаць таго, хто нёс крыж, шануючы яго.

**Ад наступных асоб атрымалі**: ад Карповіча Якуба — 3 зл. 50 гр., Коўша Аляксандра — 3 зл. 50 гр., Жуклевіча Аўгеня — 2 зл., Гародкі Сьцяпана — 3 зл. 50 гр., Бондара Сяргея — 75 гр., Севасьцяніка Паўлы—3 зл. 50 гр., Рапзіонава Якуба—3 зл. 50 гр., Крэмко Антона — 3 зл. 50 гр., Дзяковіча Вінцука — 3 зл. 50 гр., Шыманкі Міколы—3 зл. 50 гр., Лабунькі Кастуся — 3 зл. 50 гр., Коршуна Лаўрэна —3 зл. 50 гр.

Усім вышэйпамянёным асобам газэта высылаецца.

(Працяг у наступным нумары).



## Да Беларускага Праваслаўнага Грамадзянства.

Гісторыя народаў сьведчыць нам, што нацыянальнае жыцьцё кожнага народу разьвіваецца найбалей інтэнсыўна, тады, калі адна з найважнейшых галінаў духовага жыцьця народу — галіна рэлігійная — разьвіваецца на груньце нацыянальным.

У адпаведныя мамэнты народнага жыцьця царкоўна-нацыянальнай справе надаецца вялікае значэньне. Каля яе вядзецца вострая барацьба. Царква, становіцца ворганам нацыянальнае творчасьці. Асабліва гэта трэба сказаць пра пэрыяды вызвольнага руху таго ці іншага народу.

Такі пэрыяд вызвольнага руху перажывае цяпер наш Беларускі Народ.

На вялікі жаль, Праваслаўная царква ў нас на Беларусі, у асобе сучаснага духавенства, за невялікім выняткам, ня толькі не адыгрывае творчае ралі ў адраджэньні народу, але зьяўляецца найбалей варожым чыньнікам, устрымліваючым гэтае адраджэньне.

Праваслаўнае духавенства ў Заходняй Беларусі складаецца ў значнай большасьці з элемэнтаў прысланых царскім урадам з спэцыяльнаю мэтаю—душыць праявы нашага роднага, беларускага духу, з мэтаю абрусіцельнаю.

Найбалей ярымі з гэтых духоўных аккупантаў, быўшых сябраў „саюза русскаго народа“, і іншых чарнасоценных арганізацыяў, захоплены ў нас на Беларусі ўсе кіраўнічыя пасады: япіскапаў, сяброў кансысторыяў, благачынных і г. д. Народ, а таксама і тых духаўнікоў, якія хацелі-бы ісьці разам з ім на дарозе адраджэньня, яны лічаць сваімі найгоршымі ворагамі. На народ яны глядзяць, як на сваіх духоўных авец, з якіх ня толькі стрыгуць шэрсьць, але і лупяць скуру.

Праца кансысторыяў і благачынных зводзіцца толькі да спаганяньня царкоўных падаткаў. У выніку такой царкоўнай палітыкі мы бачым разваліваючыяся, з дзіравымі стрэхамі царкоўныя будынкі, адыход народу ад царквы, разьвіцьцё сэктанства і г. д.

Палітыка чужога і варожага да нашага нацыянальнага жыцьця духавенства зьяўляецца яшчэ балей варожай і шкоднай для справы чыста царкоўнай.

Дайшло да таго, што, калі прыхаджане некаторых прыходаў, напрыклад у Залесьсі, Малад. пав., перасталі прымаць прысыланых духоўнікаў, тады сябры кансысторыі пробавалі зрабіць прымусовы „ўвод“ іх у прыход, а калі гэта не памагло, то адзін з такіх духоўнікаў з аружжам у руках пробаваў зьбіць замкі на царкоўных дзьвярох.

Каб направіць палажэньне, вышэйшая духоўная ўлада ў асобе Мітрапаліта імкнецца да царкоўнага сабору, дзеля выбараў, на які ўжо вызначаны тэрміны.

Саборны лад у Праваслаўнай царкве вельмі пажаданы і неабходны, але ў тым, што нам цяпер прапануецца, няма ніякае саборнасьці: у праграме сабору няма пытаньняў аб япіскапах, благачынных і сьвяшчэньніках, няма пытаньняў і аб замене шкодных для царкоўнае справы кансысторыяў выбарнымі Япархіяльнымі радамі.

Дзеля выбараў на сабор створана курыяльная сыстэма, паводле якой міране пазбаўлены права выбіраць духоўных. Дзякуючы гэтаму чужое для нас чарнасоценнае духавенства само ад сябе пашле на сабор самых ярых ворагаў нашага народу.

Уся выбарная сыстэма знаходзіцца ў руках гэтых-жа япіскапаў, кансысторыяў, благачынных і іх служак. За „чашкаю чаю“ ў Віленскага Архіяпіскапа Хвядоса ўжо вызначаны кандыдаты на сабор, розныя Марозавы і Балаі, душыцелі ўсяго беларускага.

Што датычыць выбаршчыкаў ад міран, то правы апошніх так абмежаны, што сьвяшчэньнік мае магчымасьць зрабіць адвод кожнага няўгоднага яму міраніна.

Пры такіх варунках прапанаваны сабор будзе складацца з заклятых ворагаў нашага народу. Нашаму Беларускаму народу ён прынясе не паправу царкоўнага жыцьця, а толькі замацуе тое бяспраўе, тыя зьдзекі над нашай роднай мовай і звычаямі ды скурадзёрства, якія цяпер практыкуюцца ў адносінах да Народу. Увесь гэты гвалт і зьдзекі цяпер імкнуцца замацаваць саборнай пастановай, каб мець магчымасьць апраўдывацца: „вы, мол, самі на саборе постановили“.

Праэктаваны ў гэткіх абставінах сабор не направіць царкоўнага ладу, а толькі ўзмацуе становішча самых ярых русыфікатараў, як у расах, так і цывільных з Р. Н. О., якія цяпер пакладаюць усе высілкі, каб душыць нашае адраджэньне праз царкву.

Беручы пад увагу сапраўдную мэту прапанаванага сабору, Беларускі Царкоўны Камітэт у паразуменьні з прадстаўнікамі з мейсц пастанавіў зьвярнуцца да Праваслаўнага Беларускага Грамадзянства з заклікам: **выбары на царкоўны сабор байкатаваць.**

**Беларускі Царкоўны Камітэт.**

## АДОЗВА
### да усіх беларусау.

Будаўляны Камітэт гмаху беларускай бурсы ў Навагрудку прыносіць шчырую падзяку ўсім, хто сваёю працаю і ахвярамі прычыніўся да закладзінаў і пачатку будовы гмаху, у якім дзеці нашыя будуць спакойна і ў добрых варунках атрымліваць першую веду, каб далей ісьці да вышэйшае асьветы.

Распачата вялікая і сьвятая праца. Шмат ужо за такі короткі час зроблена. Заложаны фундамэнт, выбудавана першае паверха, куды ўложана 100,000 цэглы.

На працу гэтую Урад даў 6,200 злот, ад самаўрадаў атрымана 3,200 злот, ахвярамі сабрана 4,948 злот. 10 грошай, разам Будаўляны Камітэт выдаў на будову грашмі 14,318 злот 10 грошай ды доўгу мае 17,400 злот.

Радасна б'ецца сэрца Беларуса гледзячы як хутка расьце **новы гмах Гімназіі**, але трывога агортвае душу пры мысьлі, як доўга будзе будавацца гэты гмах, бо гэта залежыць ад вялізарнай ахвярнасьці ўсяго грамадзянства. Даволі сказаць, што, калі да гэтага часу выдадзена каля 32,000 злотых, то зроблена сёмая частка ўсяе будовы.

Аднак Будаўляны Камітэт, маючы першы прыклад шчодрай ахвярнасьці грамадзянства, пэўны, што й на будучыню гэтая ахвярнасьць ня зьменшыцца. Ня чакай на другога; давай першы, і ня саромяйся што даеш мала: з пясчынак складаецца гара. Ахвяровывай што можаш і колькі можаш, але ахвяровывай кожны, незалежна ад таго, ці вучацца ці ня вучацца твае дзеці ў Гімназіі.

Сябры Будаўлянага Камітэту не пасьпеюць самі аб'ехаць усе вёскі і зьбіраць ахвяры; дзеля гэтага няхай кожны, ня чакаючы, нясе сам сваю ахвяру і суседзяў сваіх нагаворыць зрабіць тое самае. Падпісныя лісты можна атрымаць у Навагрудзкай Беларускай Гімназіі і ў войтаў. Няхай у кожнай вёсцы знайдзецца такі, хто ўзяў-бы на сябе справу зборкі ахвяраў.

Сабранае збожжа можна прадаць у прысутнасьці войта і абавязкова напісаць аб гэным акт.

**Будаўляны Камітэт.**





Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.** Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.